# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№5 (225)
май 2021

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"



Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



Максім Вінярскі, Зміцер Казлоў, Андрэй Войніч, Павел Севярынец, Павел Юхневіч, Яўген Афнагель, Ірына Шчасная

# ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА АСУДЗІЛІ Ў МАГІЛЁВЕ. 7 ГАДОЎ УЗМОЦНЕНАГА РЭЖЫМУ

На закрытым працэсе ў Магілёўскім абласным судзе Максіма Вінярскага, Дзмітрыя Казлова, Паўла Севярынца, Паўла Юхневіча, Ірыну Шчасную прызналі вінаватымі ў арганізацыі масавых беспарадкаў (ч. 2 арт. 293 КК), а Яўгена Афнагеля ды Андрэя Войніча яшчэ ў навучанні і падрыхтоўцы асоб для ўдзелу ў іх (ч. 3 арт. 293 КК). Акрамя таго, усе сем актывістаў абвінавачаныя ў падрыхтоўцы да злачынства (ч. 1 арт. 13 КК).

Праваабаронцы абвясцілі падсудных палітвязнямі. Афіцыйныя СМІ называюць фігурантаў крымінальнай справы "групоўкай Ціханоўскага – Статкевіча".

На працэсе старшынявала суддзя Ірына Ланчава. Паводле ейнага прысуду:

– сустаршыні аргкамітэта партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Паўлу Севярынцу – 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму;

– каардынатару кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Яўгену Афнагелю 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму;

– актывісту кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Андрэю Войнічу 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму;

– актывісту кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Паўлу Юхневічу 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму;

– актывісту кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Максіму Вінярскаму 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму;

– блогеру YouTube-канала "Шэры кот" Дзьмітрыю Казлову 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму;

– актывістцы і рэдактарцы тэлеграм-каналаў (сярод іх "Мая краіна Беларусь") Ірыне Шчаснай 4 гады калоніі агульнага рэжыму.

svaboda.org

навіны "ЗБС "Бацькаўшчына"

# АБВЕШЧАНА НАЙЛЕПШАЯ ПАЭТЫЧНАЯ КНІГА 2020-ГА

Найлепшай паэтычнай кнігай на беларускай мове 2020-га года стаў зборнік вершаў Алесі Башарымавай "Расамаха".

Алеся Башарымава – паэтка, перакладчыца. Аўтарка паэтычнага зборніка "Расамаха". Пераклала са шведскай кнігі Астрыд Ліндгрэн пра Карлсана, некалькі кніг Тувэ Янсан пра мумітроляў, дзіцячыя кнігі-карцінкі, а таксама шэраг вершаў Эдыт Сёдэргран, Дана Андэрсана, Тумаса Транстромера, зборнік паэзіі Вернэра Аспенстрэма "Літанне".




У дэбютны зборнік паэзіі Алесі Башарымавай "Расамаха" ўвайшлі выбраныя вершы за 2004-2018 гады. Паэтка так апісвае сваю кнігу: "Расамаха" – кніга вечнай стомы і руху, бегу праз лясы і балоты, шуканняў у краявідах. Кніга слядоў, якімі можаце прайсці і вы".

Набыць кнігу Алесі Башарымавай можна ў "Акадэмкнізе" (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў інтэрнэт-кнігарні kniganosha.by.

Паслухаць вершы ў выкананні аўтаркі можна ў праекце "Аўдыятэка".

Арганізатары прэміі – Беларускі ПЭН-цэнтр, "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**Інфармацыйны цэнтр МГА „ЗБС „Бацькаўшчына"**

# "ВЫБРАНАЕ" ЛЬВА АКІНШЭВІЧА

У серыі "Спадчына: Агледзіны" Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" рыхтуецца да друку зборнік "Выбранага" гісторыка Льва Акіншэвіча, укладзены даследчыкамі беларускай эміграцыі Лявонам Юрэвічам і Наталляй Гардзіенкай.

Леў Акіншэвіч ёсць добрым прыкладам асобы, чыя спадчына аднačасова належыць беларусам і ўкраінцам. Народжаны ад бацькі-беларуса, ён значную частку свайго жыцця правёў ва Украіне. Тут пачалася яго навуковая дзейнасць, з украінскай гісторыяй і правам звязана большасць яго публікацый. Не дзіва, што нашыя паўднёвыя суседзі ўспрымаюць Льва Акіншэвіча як свайго.

Аднак у жыцці гэтага навукоўца і яго працы важную ролю адыгрывала беларуская тэматыка, Беларусь. Гэтая частка амаль невядомая беларускім даследчыкам, не ўключаная ў нацыянальны гістарычны дыскурс. Менавіта выпраўленню згаданай несправядлівасці і мае паспрыяць зборнік, які рыхтуецца да друку. Тут прадстаўлена пераважная большасць беларусацэнтрычных тэкстаў Льва Акіншэвіча: працы па гісторыі казацтва, права, цывілізацыйных асновах беларускай гісторыі (сярод іншага, упершыню друкуецца пераклад на беларускую мову англамоўнага артыкула пра гісторыю ўсходнееўрапейскай цывілізацыі ў працы Арнольда Тойнбі). Таксама ў выданне ўключаны шматлікія рэцэнзіі, што друкаваліся ў беларускіх метрапольных і эміграцыйных перыёдыках. Змешчана ў зборніку і звязаная з Беларуссю частка ўспамінаў Льва Акіншэвіча.

Важную частку зборніка складаюць эпісталярыі. Нізкі выбранага ліставання Льва Акіншэвіча тут пададзены паводле храналогіі асноўнай часткі лістоў у кожнай групе. Арыгіналы захоўваюцца ў фондзе БІНіМа ў БДАМЛМ, у архіве а. Льва Гарошкі ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане, у фондзе Міколы Сільвановіча ў Бібліятэцы і архіве Канады ў Атаве, а таксама ў архіве Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі ў Нью-Ёрку.

У зборніку змешчаныя таксама тэксты пра Льва Акіншэвіча і яго працы, а таксама найпаўнейшая на сёння бібліяграфія гісторыка.

Кніга з'яўляецца вынікам плённага супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў і з'яўляецца першым кніжным выданнем творчай спадчыны Льва Акіншэвіча.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

# 25 ГАДОЎ СПОЎНІЛАСЯ ІРКУЦКАМУ ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ ЯНА ЧЭРСКАГА!

25 гадоў таму на першым З'ездзе беларусаў Іркуцкай вобласці з ініцыятывы Алега Рудакова было створана Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК). Арганізацыя, якая ад самага пачатку мела на мэце аб'яднанне беларусаў Прыбайкалля і адраджэнне беларускіх традыцый, дзякуючы адданай працы сваіх сяброў ужо праз некалькі гадоў зрабілася знакамітай ва ўсім свеце суполкай.

Сёння ІТБК мае 8 аддзяленняў у гарадах і вёсках Іркуцкай вобласці, аб'ядноўвае некалькі фальклорных калектываў, выдае бюлетэнь "Маланка", валодае бібліятэкай і музеем-майстэрняй, у якім захоўваюцца і ствараюцца традыцыйныя пабытавыя прадметы і адзенне. Варта згадаць таксама і пра ўдзел Таварыства ў стварэнні этнаграфічнага музею ў вёсцы Тургенеўка і тэатра-батлейкі ў вёсцы Чэрчэт.

За час існавання ІТБК зладзіла і ўзяло ўдзел у сотнях культурніцкіх мерапрыемстваў – канцэрты, вечарыны, фестывалі, канферэнцыі, выставы і экскурсіі – па некалькі дзясяткаў штогод. Унёсак Таварыства ў справу захавання і распаўсюду нашай культуры папросту неацэнны.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ганарыцца шматгадовым супрацоўніцтвам з Іркуцкім таварыствам беларускай культуры і сардэчна віншуе ўсіх сяброў Таварыства і яго старшыню спадарыню Алену Сіпакову! Зычым, каб Таварыства аб'ядноўвала ўсё болей новых сяброў, натхнёных, ініцыятыўных і працавітых, гатовых і надалей годна працягваць працу па адраджэнні нашай культуры ў Прыбайкаллі!

**Інфармацыйны цэнтр МГА „ЗБС „Бацькаўшчына"**

# МАРЫНА АДАМОВІЧ УПЕРШЫНЮ ЗА ГОД ПАБАЧЫЛА МУЖА – МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА

Упершыню за амаль што год Марына Адамовіч змагла патрапіць на спатканне з мужам – палітвязнем Мікалаем Стакевічам. Адбылося гэта 26 траўня і абсалютна нечакана. Палітыка этапавалі з Жодзіна ў Гомель, але пра гэта не было ніякай інфармацыі.

Тады Марына Адамовіч сама паехала ў Гомель, там атрымалася спаткацца. Нам яна растлумачыла, чаму суд мусіць адбыцца менавіта ў гэтым абласным цэнтры.



Паводле Марыны Адамовіч, асобам, якія праходзяць па той жа справе, што і Мікалай Статкевіч – інкрымінуюць дадатковы артыкул, такія справы праходзяць толькі на ўзроўні абласнога суду: "Інкрымінуюць 130-ы артыкул – гэта "распальванне варожасці". Аказваецца, што людзі, якія сядзяць за кратамі ўжо год, умудрыліся "распаліць варожасць". 130-ы артыкул вымагае, каб суд праводзіўу не менш чым узровень вобласці, альбо ўзровень Вярхоўнага суда. Я так разумею, што Вярхоўны суд зараз "вельмі заняты" разглядам справы Віктара Бабарыкі і ягоных калег. І выбіраюць ужо па прынцыпе максімальнай нязручнасці. Я іншай логікі тут не бачу".

Мікалай Статкевіч за кратамі ўжо амаль год. Яго вінавацяць у арганізацыі масавых беспарадкаў. 4 траўня стала вядома, што справу шэрагу палітвязняў будзе разглядаць Гомельскі абласны суд. Сярод абвінавачаных – блогер Сяргей Ціханоўскі – былы кіраўнік перадвыбарчага штабу сваёй жонкі Святланы Ціханоўскай, палітык Мікалай Статкевіч, блогеры Ігар Лосік і Уладзімір Цыгановіч (MozgON), а таксама аператар Ціханоўскага Арцём Сакаў і мадэратар сацсетак "Страна для жизни" Дзмітрый Папоў.

**Улад Грынеўскі, "Беларускае Радыё Рацыя"**

навіны "ЗБС "Бацькаўшчына"

# Алег Трусаў: ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ МОЖА БЫЦЬ ВЫРАШАНЫ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ

Зараз у нашай краіне ідзе гаворка аб так званай канстытуцыйнай рэформе. Хто толькі пра яе не гаворыць у СМІ, на розных форумах, сайтах і стрымах.



Адно з самых балючых пытанняў, гэта колькі дзяржаўных моў павінна быць у будучай дэмакратычнай Беларусі. Адна ці дзве? Дарэчы. У свой час Бабарыка гаварыў пра тры мовы: беларускую, рускую і англійскую. Пасля таго, як у жніўні мінулага года да мірнага беларускага супраціву далучылася масава рускамоўнае насельніцтва нашай краіны, якое адразу прызнала нацыянальную сімволіку як сваю, але пераходзіць на беларускую мову ў іх вялікага жадання не было, яны зноў, як у далёкім ужо 1995 г., сталі на пазіцыі тых, хто пад уплывам Крамля навязаў краіне так званае двухмоўе. Наіўныя людзі верылі, што ў Беларусі будзе ідэальная сітуацыя, пра якую калісьці казаў старшыня ВС БССР Дземянцей: "У нас, хто как хаціт, тот так і гаварыт".

У выніку ж разгарнулася татальная русіфікацыя ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Асабліва ў адукацыі і сістэме дзяржаўнага кіравання. Гэта вельмі падабалася Крамлю, які не шкадаваў грошы і ўсяляк падтрымліваў і зараз падтрымлівае русіфікатараў. Уладзімір Пуцін вылучыў асобную канцэпцыю "русского мира", дзе ёсць асобныя праграмы падтрымкі спачатку грашыма, а потым і зброяй так званага "русскоязычного населения". Гэта ідэя легла ў абгрунтаванне анексіі Крыма і вайны на Данбасе. Цікава, што пасля ўмяшальніцтва Пуціна ў армяна-азербайджанскі канфлікт у непрызнанай армянскай рэспубліцы Арцах (Нагорны Карабах) з'явілася яшчэ адна дзяржаўная мова – руская. Такая сітуацыя за-раз у Абхазіі і Паўднёвай Асеціі.

Пра дзве дзяржаўныя мовы на Беларусі зараз гавораць каманда Ціханоўскай, блогерка і палітык Вольга Карач, прыхільнікі новай партыі "Вместе" і іншыя аматары "великого и могучего языка и великой культуры".

Прыводзяць прыклады двухмоўя ў Бельгіі і Ірландыі, і нават Індыі, ужо не кажучы пра Швейцарыю. Але ў Бельгіі жывуць два народы – валоны і фламандцы, і таму ў іх дзве дзяржаўныя мовы. Кожны швейцарскі кантон мае адну мову, на якой і гавораць. Урад Ірландыі траціць вялікія сродкі, каб хоць неяк захаваць сваю родную мову, але яна паступова знікае і асаблівай перспектывы на захаванне не мае.

А што мы маем зараз у Беларусі? Мы адна з самых мананацыянальных краін Еўропы, бо беларусы складаюць у нас больш за 80 % насельніцтва. На апошнім перапісе, нягледзячы на 25 год русіфікацыі, больш за 50 % грамадзян Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, прычым акрамя беларусаў, гэта і палякі, і рускія, і татары, і яўрэі. Насельніцтва краіны збольшага разумее беларускую мову, бо вывучае яе ў школе.

Доўгі час крыніцай захавання беларускай мовы была наша вёска. Але зараз яна імкліва вымірае, і мы сталі адной з самых урбанізаваных нацый у Еўропе. Толькі ў Мінску жыве 2 млн. чалавек. Але дзеці ў Мінску і вялікіх гарадах, асабліва ў малым узросце (3-6 гадоў), ужо зусім не разумеюць беларускай мовы, а калі яны ідуць у рускамоўную школу, то беларуская мова там для іх чужая, замежная і, галоўнае – непатрэбная, бо ўсе ВНУ краіны рускамоўныя.

Цалкам рускамоўныя войскі, суды, міліцыя і амаль увесь дзяржаўны апарат.

Таму калі мы пакінем дзве дзяржаўныя мовы, то за найбліжэйшыя 25 год у нас застанецца адна дзяржаўная мова, і, вядома, не беларуская.

Калі за гэты час нас не захопіць Расія, то нас чакае лёс нават не Ірландскай рэспублікі, але, бадай, лёс Белфаста (Паўночнай Ірландыі), якая належыць Брытаніі, а мова ірландцаў там у поўным заняпадзе.

Таму, калі мы хочам жыць, як у Чэхіі, Даніі, Славакіі, Галандыі, мы павінны вярнуць беларускай мове, як адзінаму фактару існавання самастойнай беларускай нацыі, статус адзінай дзяржаўнай. У Канстытуцыю можна запісаць пункт, што статус выкарыстання рускай і іншых замежных моў у краіне вызначаецца асобным законам. Гэты закон у нас існуе з 1990 г. і называецца "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Яго трэба ўдасканаліць і дапрацаваць. Там запісана, што на пераход да беларускай мовы патрэбна 10 год. Але павінны быць запіс, што ўсе дзяржаўныя чыноўнікі павінны здаваць пры прыходзе на службу абавязковы экзамен на веданне беларускай мовы, а на пэўных пасадах і англійскай. (Як, дарэчы, у Ірландыі).

У адпаведнасці з вынікамі апошняга перапісу, з 2022 года не менш, чым 50 % усіх школ і ВНУ краіны мусяць пераводзіцца на беларускую мову навучання. Кожны беларускамоўны грамадзянін краіны мае права ва ўсіх сферах жыцця карыстацца беларускай мовай на роўных правах з рускамоўнымі грамадзянамі.

Асноўнай мовай дзяржаўнага апарата краіны павінна быць – беларуская. Аднак на працягу 10 гадоў па пісьмовай просьбе рускамоўных грамадзян краіны яны могуць карыстацца рускай мовай у перапісцы з чыноўнікамі, у судах, банках і іншых дзяржаўных структурах, навучацца на рускай мове ў школах і ВНУ.

Закон аб мовах пасля прыняцця Канстытуцыі можна вынесці на грамадскае абмеркаванне, каб удасканаліць яго асобныя палажэнні.

**Ганаровы старшыня ТБМ
Алег Трусаў**

навіны

# БЕЛАРУСЫ Ў ЗАХОДНЯЙ ГЕРМАНІІ АБ'ЯДНАЛІСЯ

Больш за сто чалавек – іх суполка называецца Libertas Belarus. Асаблівасць гарадоў у заходняй частцы Германіі ў тым, што яны знаходзяцца недалёка адзін ад аднаго, і таму мясцовыя беларусы акцыі арганізоўваюць папераменна ў найбуйнейшых гарадах: Кёльн, Дзюсельдорф, Бон, Эсэн.

"Стараемся не толькі стаяць на плошчы з акцыямі салідарнасці, але таксама інфармаваць пра сітуацыю ў Беларусі. Прынамсі зараз у Германіі ведаюць, як правільна называецца наша краіна, – кажа беларуска, што жыве ў Кёльне, – Аксана Ракуціна. – Мы усё ж такі размаўляем таксама з журналістамі, палітыкамі, пісьменнікамі. І гэтыя людзі прыходзілі да нас на акцыі, падтрымлівалі беларусаў, выказвалі сваю салідарнасць. Мы размаўляем з гэтымі людзьмі, знаходзімся з імі на сувязі, спрабуем расказаць як мага больш пра Беларусь, заклікаем іх да ўдзелу. Мне здаецца, у нас гэта дастаткова добра атрымліваецца. Таму што калі пра Беларусь яшчэ год таму мала ведалі, то зараз ужо ведаюць, як мы правільна называемся і што ў нас сапраўды адбываецца".

Беларусы ў Германіі акрамя акцый таксама супрацоўнічаюць з мясцовымі арганізацыямі і структурамі.

**Улад Грынеўскі, "Беларускае Радыё Рацыя"**



**навіны ЗБС “Бацькаўшчына”**

# “МАЎЧЫ, МАЎЧЫ, КАЖУ ТАБЕ!..”

Неяк мне ў рукі трапіла кніга “Эміграцыі і эміграцыйная палітыка” Леапольда Каро. Выданне 1914 года. Па-польску. Аўтар ацэньвае польскую эміграцыю ў ЗША, Канадзе, Паўднёвай Амерыцы, па ўсім свеце. Як эміграцыя паўплывала на тую ж Галіцыю ці Падляшша? З мапамі, статыстыкай, высновамі і г. д.

Толькі ўявіце – больш за 100 гадоў таму палякі ўжо задумваліся над гэтым пытаннем. На жаль, у Беларусі да эміграцыі як да асобнага феномену навукоўцы падышлі адно ў 1990-я. Але нават сёння гэтай тэмай прафесійна займаецца літаральна некалькі чалавек.

Найбольш паслядоўныя і пладавітыя даследчыкі – Лявон Юрэвіч і Наталля Гардзіенка. Менавіта дзякуючы іхнай шматгадовай працы мы ведаем пра лёсы эмігрантаў хвалі 1944 года, Раду БНР у выгнанні, разнастайныя саюзы, скаўцкія арганізацыі, бібліятэкі і калекцыі беларускіх рэліквій за мяжой.

З чаго пачыналі спсп. Лявон і Наталля? Ці заўсёды эмігранты з ахвотай расказвалі ім свае гісторыі? Урэшце, ці патрэбны Беларусі асобны даследчыцкі цэнтр сваіх дыяспар у свеце?

А вось Наталля Гардзіенка яшчэ ў пачатку 2000-х працавала з зусім іншай тэмай – жанчынамі-шляхцянкамі XVIII ст. Пасля абароны дысертацыі шукала новы аб'ект даследаванняў. Дапамог той самы Юрэвіч. Маўляў, чаму б не даследаваць жанчын-эмігрантак?

**Наталля Гардзіенка:** “Ён даў мне колькі адрасоў і жанчын, і мужчын-эмігрантаў у розных краінах, я пачала да іх пісаць, задаваць пытанні. У выніку аўстралійскія беларусы запрасілі мяне на месяц да сябе, каб на месцы запісаць інтэрв'ю. З гэтага і нарадзілася і кніга пра беларусаў у Аўстраліі, што выйшла ў 2004 годзе, і маё захапленне тэмай эміграцыі”.

Вялікая перавага даследавання эмігранцкіх спраў, на думку спн. Наталлі, у шматаспектнасці. Можна пісаць пра жанчын на эміграцыі, пра культурніцкія ці скаўцкія арганізацыі, пра гісторыі поспеху, творчыя калектывы, літаратуру, народжаную за мяжой... За што ні возьмешся – будзеш першым.



Наталля Гардзіенка з аўстралійскімі беларусамі: Алегам Шнэкам, Аўгенам Грушам і а. Аляксандрам Грыцуком – каля беларускай царквы ў Мельбурне. 2003 г.

### “З кніжных карэньчыкаў глядзелі імёны беларускіх аўтараў”

Лявон Юрэвіч прыехаў у Нью-Ёрк у 1993 годзе. Там пазнаёміўся з Зорай і Вітаўтам Кіпелямі – топавымі асобамі беларускага асяродку ў ЗША. Пазнаёміўся з іх бібліятэкай. Кіпелі параілі ісці працаваць у NYPL (публічная бібліятэка Нью-Ёрка) – і панеслася...

**Лявон Юрэвіч:** “І вось там, у славянскім аддзеле, на мяне абрынулася. Кожны свой перапынак, кожны абед я бавіў каля паліц з беларускімі эміграцыйнымі кнігамі. Скончыўшы беларускае аддзяленне філфака з чырвоным дыпломам, я мог расказаць пра якога-небудзь Вальтэра фон дэр Фогельвайдэ, а тут з кніжных карэньчыкаў глядзелі імёны беларускіх аўтараў, за якімі для мяне на той час нічога не было”.

Падобнае няведанне імёнаў, што глядзелі з кніжных карэньчыкаў, сам Лявон Юрэвіч палічыў “дзікунствам”. Вырашыў брацца за тэму: чытаць, пісаць, слухаць, збіраць. Сёння даследчык займаецца тэмай эміграцыі ўжо больш за чвэрць стагоддзя.

### “Яны мелі права на недавер”

Тэма эмігрантаў і эміграцыі хвалі 1944 года ў БССР традыцыйна была табуяванай. Маўляў, эмігрант = “здраднік”. Наяўнасць за плячыма нейкіх канкрэтных злачынстваў не мела значэння, бо сам ад'езд на Захад ужо быў “здрадай”... Адваротны бок медаля – недавер эмігрантаў да беларусаў з самой Беларусі. А раптам даследчыкам ці журналістам прадстаўляецца агент КДБ?..

Так, Лявон Юрэвіч згадвае, як камбатант і літаратар з Канады Кастусь Акула адмыслова тэлефанаваў яму і пытаўся: “Спадар Юрэвіч, я паглядзеў усе энцыклапедыі, і вашага імя нідзе няма!” Паранойя, узаемны недавер былі разлітыя ў паветры нават пасля падзення жалезнай заслоны.

**НГ:** “Калі я прыляцела ў Аўстралію, даведалася, што значная частка мясцовых беларусаў лічыла, нібыта мяне скіравала КДБ. У выніку гэтага не адбыліся некаторыя важныя для мяне інтэрв'ю – жанчыны баяліся нават проста сустракацца. Я нават крыўдавала, але потым зразумела, што людзі мелі на гэта права і варта больш цаніць тых, хто такі адважваўся спаткацца і распавесці пра сябе”.

Быў яшчэ і матэрыяльны бок пытання. У пачатку 1990-х, калі ЗША з “ворага” ператварыліся ў “краіну мары”, з постсавецкай прасторы пасыпаліся лісты ў тую ж дыяспарную газету “Беларус”. Людзі прасілі даслаць даляры або нейкія рэчы, дапамагчы з выездам у Штаты, шукалі крэўных за акіянам як саломінку ў жыцці... Рэдка хто прасіў даслаць кнігі ці газеты. Амаль нікому не былі цікавыя лёсы і гісторыі эмігрантаў “старой хвалі” як такія.

**ЛЮ:** “...Таму акурат яны мелі права на недавер. І я гэта разумеў, бо ну з чаго ім верыць незнаёмаму, чужому? На давер трэба папрацаваць, і добра так папрацаваць”.

### “Вярталася са словамі: “Я нічога не ведаю...”

За чвэрць стагоддзя працы ў даследчыкаў апроч




Лявон Юрэвіч і Уладзімір Пеляса. 1990-я гг.

выдадзеных кніг і тэкстаў назбіралася маса цікавых гісторый і ўласных успамінаў. Паводле сп. Лявона, прыгадваецца шмат што, але найперш – страчаныя магчымасці. Сустрэчы і размовы, калі, здаецца, можна было б "дацісnуць" суразмоўцу, але не атрымалася.

**ЛЮ:** "...Сядзеў у хаце Міхася Рагулі й намагаўся распытаць пра выдаваны ім часопіс у часе вайны, а ён маўчаў, нягледзячы на прысутнасць тут жа ягонага брата Барыса. Быў чуцён толькі голас Міхасёвай жонкі: "Маўчы, маўчы, кажу табе!"

І размова ў Таронта ў хаце Валяр'яна Навіцкага была б больш інфарматыўнай, калі б зноў жа не ягоная жонка, якая хіба што не зацiскала яму рот: перапыняла, перакрыквала, забараняла. Або тэлефонныя размовы з Латушкіным (Гарэлікам), ягоныя словы пра жыццё, вартае Галівуда, але так ніколі й не расказанае".

**НГ:** "У мяне былі падобныя гісторыі. Асабліва добра запомніла адну жанчыну ў Сіднэі – Марыю Алехна. Пасля вайны яна апынулася ў Бразіліі, жыла ў Рыа-дэ-Жанэйра, вывучылася на швачку. Пазнаёмілася з беларусам з Аўстраліі і пераехала да яго. Вось гэтую гісторыю я й хацела пачуць, але яна і сама баялася расказваць, і муж яе перыядычна клікаў ды намаўляў, каб была асцярожнаю. І яна кожны раз вярталася са словамі: "Я нічога не ведаю..."

Было і па-іншаму. Неяк спн. Наталля прысела паразмаўляць падчас нядзельнага абеду пасля царквы ў Сіднэі з немаладой жанчынай, а тая аказалася... сястрою ад'ютанта Радаслава Астроўскага (галавы БЦР) Усевалада Родзевіча! На дзіва, жанчына ахвотна гаварыла пра брата і сваю сям'ю.

### "Шкадую, што не напрасілася лепей пакорпацца ў той шафе"

Былі і нечаканыя падарункі. У Мельбурне Наталля Гардзіенка жыла ў сям'і святара Аляксандра Грыцука. Аднойчы ён паказаў ёй паперы, якія захоўваліся ў падвале дома. Ён іх падрыхтаваў, каб аддаць у Беларускае гістарычнае згуртаванне ў Адэлаідзе...

**НГ:** "...Нечакана айцец спытаў, ці цікавяць мяне эміграцыйныя часопісы. Кажу: "Безумоўна!" Тады ён не гледзячы засунуў руку ў стос папераў і выцягнуў з дзясятак перыёдыкаў 1940–1980-х гадоў. Там былі скаўцкія з Нямеччыны і мясцовыя аўстралійскія беларускія. У мяне мову заняло, а ён спакойна аддаў іх мне: "Трымай!" Да сёння шкадую, што не напрасілася лепей пакорпацца ў той шафе. Тады я яшчэ не ўсведамляла ўсю каштоўнасць таго, што бачыла".

Сп. Лявон кажа, што прасіць пра нешта (кнігі, дакументы, фота) ён не саромеўся: усе атрыманыя матэрыялы перадаваліся ў архіў у Мінску. Не для сябе ж. Шмат што дарылася з добрай волі саміх гаспадароў, якія першы – магчыма, адзіны – раз у жыцці бачылі жывога даследчыка з Беларусі, які вывучаў іх саміх.

А што з дыяспарамі ўкраінцаў, расійцаў, літоўцаў?.. Здавалася б, дыяспары з умоўнага "былога СССР" павінныя трымацца разам. А значыць, і даследчыкі іх гісторыі мусяць каардынаваць працу. Па факце ж нейкай адной інстытуцыі не існуе. Хоць ёсць цэнтр эмігранталогіі ў Польшчы, які выступае як платформа для абмену інфармацыяй для калег з Усходняй Еўропы. Але казаць пра ягоны ўплыў на даследаванні не даводзіцца.

Спсп. Лявон і Наталля спрабавалі супрацоўнічаць з літоўскімі даследчыкамі эміграцыі, але, прызнаюцца, не надта паспяхова. Найлепш атрымалася з украінцамі – з Навуковым таварыствам імя Шаўчэнкі і з Вольнай украінскай акадэміяй (абедзве ўстановы – NY). Цяпер, напрыклад, рыхтуецца да друку зборнік гісторыка Льва Акіншэвіча, спадчына якога адначасна і беларуская, і ўкраінская.



Лявон Юрэвіч і Яніна Каханоўская. Канец 1990-х гг.

### Часам супраца ідзе і з расійцамі

**НГ:** "У апошніх сітуацыя падобная да нашай у тым плане, што даследаванні паваеннай эміграцыі выглядаюць "ідэалагічна небяспечнымі". Таму большасць навукоўцаў звяртаецца да паслярэвалюцыйнай эміграцыі. Што праўда, там і матэрыялаў багата, дый рэсурсаў для даследаванняў і ў расійцаў, і ва ўкраінцаў значна болей, чым у нас".

Паводле спн. Наталлі, колькі гадоў таму наладзіўся кантакт з расійскім даследчыкам далёкаўсходняй эміграцыі Уладзімірам Калупаевым, які ў сваіх працах згадваў і беларускіх святароў. Атрымалася запрасіць яго на Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі, а таксама наведаць па яго запрашэнні рускі эміграцыйны даследчы цэнтр у невялікім гарадку Серыятэ на поўначы Італіі. Сам Калупаеў, дарэчы, – святар.

### Цэнтр даследавання беларускай дыяспары – ці магчыма?

Кнігі па гісторыі эміграцыі, выдадзеныя або адрэдагаваныя спсп. Лявонам і Наталляй наўрад ці змесцяцца на адной паліцы, хіба на нейкай нерэальна доўгай. І гэта не ўлічваючы дзясяткаў зборнікаў "Запісаў БІНІМу". Па логіцы мела б з'явіцца нейкае агульнае выданне – квінтэсенцыя напрацаванага.

Ідэя такая была: ЭБД – Энцыклапедыя беларускай дыяспары. Але да справы пакуль не дайшло. Аказалася, галоўнае тут нават не фінансавы бок пытання, а... спецыялісты. Людзі "ў тэме", здольныя пісаць энцыклапедычныя артыкулы. Энергіі і часу спсп. Лявона і Наталлі на ўсё не хапае.

Некаторыя абагульняльныя выданні ўсё ж з'яўляюцца. У 2010-м з ініцыятывы Міністэрства інфармацыі і пад куратарствам д-ра Адама Мальдзіса выйшла кніга "Беларускае замежжа" (на жаль, моцна цэнзураванае выданне, з якога выкінулі імёны вядомых беларускіх эмігрантаў). Апошнімі гадамі пабачылі свет два тамы выдання "Творчыя калектывы беларусаў замежжа".

Але нават гэтыя выданні пакуль няпоўныя – фрагментарныя. Тым больш што ў краіне няма нейкай інстытуцыі, цэнтра, які ўвесь час займаўся б даследаваннем дыяспары.

**ЛЮ:** "І музей, і даследчы цэнтр, і архіў, і бібліятэка – усё гэта мусіць быць, тым болей што назбірана й перададзена ў Мінск на захаванне й выкарыстанне нямала. І што будзе – так, веру, як веру, што Беларусь паўстане, хай мо і не да Каляды. Інакш нашто мы ўсё гэта робім?"

Наталля Гардзіенка згадвае, што з ідэяй такога цэнтра актыўна выступаў д-р Адам Мальдзіс. Колішні ягоны "Скарынаўскі цэнтр" быў у нечым правобразам цэнтра даследавання дыяспары. На жаль, гэтая інстытуцыя ўжо не існуе.

**НГ:** "Напэўна, такі цэнтр магчымы толькі ў іншай Беларусі, у той, дзе не будзе ідэалагізацыі не толькі тэмы беларускага замежжа, але і навукі наогул. А пакуль мы можам проста назапашваць матэрыялы, даследаваць, выдаваць. Тое і робім".

**Алесь Кіркевіч, budzma.by**
**Фота Наталлі Гардзіенка**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# Лідзія Савік: Мы нібы зноў вярнуліся ў тыя страшныя 1930-я гады

На пачатку 1990-х гадоў нешматлікая група беларускіх літаратуразнаўцаў і гісторыкаў атрымала доступ у архіў Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Тады ў СМІ ўпершыню трапілі факты, якія засведчылі маштабы сталінскага тэрору ў Беларусі, былі названы імёны многіх расстраляных у Курапатах і загінулых у ГУЛАГу. Сярод тых, каму выпала вынесці на белы свет схаваную раней за сямю замкамі праўду, была даследчыца Лідзія Савік. Я пацікавіўся ў яе, ці шмат агульнага паміж сталінскімі рэпрэсіямі і рэпрэсіямі сённяшнімі.




**– Лідзія Сымонаўна, часы ўсё ж непараўнальна змяніліся. Ці правамерна сёння праводзіць паралелі паміж сталінскім тэрорам і тым, што сёння адбываецца ў Беларусі?**

– Гэтыя паралелі для мяне відавочныя. Мы нібы зноў вярнуліся ў тыя страшныя 1930-я гады. Напрыклад, тады ўладай заахвочваліся даносы. А гляджу нядаўна – па Беларускім тэлебачанні абвяшчаюць: "Просим всех информировать власти о вывешенной незарегистрированной символике". Як можна заклікаць грамадзян да палітычных даносаў? Якія могуць быць даносы суседа на суседа?! Я што, за акадэмікам Радзімам Гарэцкім (мы з ім жывём у адным доме) павінна сачыць? Каля нашага дома часта можна было бачыць бел-чырвона-белыя стужачкі, купалаўскі заклік "Жыве Беларусь!". Назаўтра ўсё гэта вынішчалася, а людзі зноў усё аднаўлялі.

**– Згаданы вамі Радзім Гарэцкі ў інтэрв'ю "Народнай Волі" цешыўся, што дажыў да часу, калі беларускі народ нарэшце прачнуўся. Але, як выглядае, існуючая ўлада зноў хоча вярнуць яго ў стан "спячкі". Ці гэта магчыма?**

– Думаю, што немагчыма. Лукашэнкаўскі рэжым, наадварот, робіцца непрымальным нават для тых, хто ніколі не цікавіўся палітыкай. Сфальсіфікаваныя выбары 9 жніўня паказалі, што цярпець далей проста немагчыма. Слухайце, у нас жа перасталі дзейнічаць законы (згадайма вядомае выказванне "часам не да законаў). Невядома хто ў любы час можа схапіць выпадковага чалавека на вуліцы, завезці кудысьці, дзе яго будуць збіваць, здзекавацца з чалавечай годнасці. Пра гэта ж апублікавана безліч сведчанняў. Маладых, прыгожых людзей кідаюць у жудасныя камеры, якія нагадваюць катавальні. Мне ўжо сіл не хапае такое чытаць…

**– Калісьці Станіслаў Ежы Лец казаў, што ў кожнага стагоддзя бывае сваё сярэднявечча (калі іншадумцаў на вогнішчах палілі). Беларускае сярэднявечча XXI стагоддзя прыйшлося на 2021 год?**

– Можна і так сказаць. Як сярэднявечча XX стагоддзя прыйшлося на 1930-я гады. У мяне такое адчуванне, што мы зноў вярнуліся ў 1937-мы, прычым у больш жорсткім варыянце. Калі нас, даследчыкаў літаратуры, дапусцілі ў архіў КДБ, калі мы пагарталі тыя жудасныя папкі, на якіх было напісана "Совершенно секретно" і "Хранить вечно", то ніяк не маглі даўмецца: як такое ўвогуле магло адбыцца?! Помню, начытаешся пратаколаў, выйдзеш на вуліцу – і здаецца, што выйшаў з нейкай апраметнай. Столькі таленавітых людзей былі без усякай віны проста растаптаны… На кожным допыце яны задавалі следчым адно пытанне: "За што?" А хіба сёння мы яго не чуем?

**– Гэта пытанне гучыць ледзь не пры кожным затрыманні, а яны па ўсёй краіне адбываюцца штодня.**

– У гады сталіншчыны стваралася ілюзія хоць нейкай законнасці, змяняліся кіраўнікі ОГПУ-НКВД за тое, што парушалі закон. Іх нават судзілі і саміх расстрэльвалі. А ў нас што творыцца? Адзін чалавек – Лукашэнка – дыктуе правілы, паводле якіх мы ўсе павінны жыць. Ён лічыць, што разумнейшы за ўсіх. Ён усталяваў сапраўдны дыктатарскі рэжым з татальным кантролем над кожным з нас. Пачынаючы ад працоўных кантрактаў, якія трымаюць людзей на кароткім павадку. За апошнія паўгода на палітычных іншадумцаў заведзена больш за 3000 крымінальных спраў, паведаміў Следчы камітэт. І – ніводнай справы на тых, хто ў масках і з дубінкамі збіваюць, катуюць, забіваюць мірных людзей. Як такое можа быць?!

**– Яшчэ адна паралель са сталінскімі часамі была праведзена нядаўна. Як вядома, на Сталіна пастаянна "арганізоўваліся замахі", і вось выкрыты "замах" на Лукашэнку. Наш з вамі калега, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Аляксандр Фядута трапіў у СІЗА КДБ, яму пагражае да 12 гадоў турмы.**

– Усе дыктатары свету арганізоўваюць такія "замахі" на сябе. Каб іх, бедных, народ пашкадаваў. І ў 1930-я гады ў чым толькі не абвінавачвалі пісьменнікаў! І ў тэрорах, і ў дыверсіях, і ў замахах на правадыроў. Чалавек – ні сном ні духам, а яго абвяшчаюць тэрарыстам! Адзін хацеў далучыць Беларусь да Англіі, другі "прызнаваўся" ў шпіянажы на карысць Японіі, трэці аддаваў Беларусь пад пратэктарат Польшчы. Дык жа і сёння нам па БТ гавораць, што Польшча ўжо ледзь не заняла Гродзенскую вобласць… Што мяне яшчэ ўразіла – на допытах у НКВД некаторыя пісьменнікі, разумеючы ўсю недарэчнасць прыпісваных іх абвінавачванняў, гаварылі: не, мы хацелі аддаць Беларусь не пад Польшчу, а пад Індыю… Такім чынам пачыналі кпіць са следчых.

**– У тых умовах на гэта была патрэбна дадатковая мужнасць.**

– Безумоўна! Помню, тагачасны старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі (мне падалося – ён быў шчырым беларусам) сабраў нас, даследчыкаў, у сваім кабінеце і сказаў: "Вы будзеце чытаць страшныя рэчы. Там столькі хлусні несусветнай! Рыхтуючы свае публікацыі, вы павінны разумець, што пісьменнікі не даносілі адзін на аднаго. З іх тыя паказанні выбівалі жудаснымі катаваннямі". Вось у чым сутнасць любой дыктатарскай улады – запляміць, абылгаць як мага большую колькасць людзей. Тое самае і сёння. Рэжым ілжэ на кожным кроку, выдумвае абы-што, пры гэтым цынічна абвяшчае ў краіне Год народнага адзінства! Дык вы ж гэты народ і раскалолі сваімі сфальсіфікаванымі выбарамі і працягваеце расколваць рэпрэсіямі.

**– Рэпрэсіі ў Беларусі могуць перайсці ў масавы тэрор?**

– Тэрор ужо пачаўся – ёсць забітыя. І, зноў жа, ніхто не панёс пакарання. Калі дыктатар застанецца пры ўладзе і будзе працягваць бегаць з аўтаматам і заяўляць, што ён ні за што сваю ўладу не аддасць, то можа дайсці і да новых Курапатаў. Толькі мы не адразу даведаемся, дзе тыя Курапаты. Як і дагэтуль не ведаем, дзе закапаны Захаранка, Ганчар, Красоўскі, Завадскі і іншыя.

**– Мы жахаемся ад слоў "сталінскі тэрор", "ГУЛАГ". Вось я сёння ў дзяржаўнай кнігарні пабачыў такія кнігі: "Сталин – символ Беларуси", "Минск – город Сталина", "Урок отца народов Сталина и батьки Лукашенко". Можа, Іосіф Вісарыёнавіч для Аляксандра Рыгоравіча – узор пасляховага палітыка?**

– Хутчэй за ўсё, так і ёсць. Прынамсі, за 26 га-

доў кіравання я не пачула ад яго асуджэння Сталіна, і ў Курапатах ён ні разу не быў. Што ж, ёсць з каго браць прыклад – “крамлёўскі горац” утрымліваў уладу 30 гадоў. Для мяне ж ён – увасабленне абсалютнага зла, ён столькі нявінных жыццяў загубіў! У сталінскія часы 15 хвілін ішлі суды над беларускімі пісьменнікамі. За 15 хвілін чалавека адпраўлялі на расстрэл! А сёння, я чытаю ў навінах, суды яшчэ карацейшыя. Праўда, прысуды пакуль – не вышэйшая мера… А па БТ бясконца паўтараюць: “Ці былі вы на “Лініі Сталіна”?” Не дзіва, што будуць выходзіць названыя вамі кнігі, якія пішуцца падхалімамі-прыкарытнікамі. “Отец народов Сталин и батька Лукашенко”… Такія пісакі проста ўгадваюць жаданні дыктатара, сёння іх час.

**– Ідучы да вас на гутарку, я пабачыў у двары трох у чорнай уніформе, што няспешна прагульваліся туды-сюды. Ваш двор пад нейкім звышпільным наглядам?**

– Асабліва падчас нейкіх акцый. Вось я іду ў краму 25 сакавіка – наш двор поўны нейкіх камунальнікаў. Адзін ідзе насустрач, пытаюся: што здарылася, чаму вас так многа? А ён кажа: мы не камунальнікі… І штодзень па трое, па пяцёра ў чорным адзенні па двары ходзяць. А раптам хтонебудзь намалюе надпіс “Жыве Беларусь!”!.. А раптам збярэцца без дазволу 5–6 чалавек!.. Схопяць, аддубасяць, завязуць на Акрэсціна… Як мы ўсе стаміліся ад гэтых хапуноў, ад гэтага адзінаўладдзя!

**– Пасля таго, як вы на пачатку 1990-х папрацавалі ў прыадкрытым архіве КДБ, ён зноў закрыўся для даследчыкаў. Скажам, мне так і не ўдалося атрымаць доступ да справы Ларысы Геніюш… Помніцца, Станіслаў Шушкевіч гаварыў, што ён быў супраць адкрыцця, бо гэта пасеяла б варажнечу ў грамадстве. А вы як лічыце?**

– А я лічу, што захаванне ўсіх тых страшных таямніц і пераемнасць тагачаснага НКВД і сучаснага КДБ і прывялі да ўмацавання новай дыктатуры. Не адбылося ж ніякага “разбору палётаў”, ніякага пакаяння. Таму ў нас пасля кожных прэзідэнцкіх выбараў распачыналіся рэпрэсіі. Дзе, у якой краіне кідалі за краты прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду? Згадайце, што вытваралі з Някляевым у 2010-м. А за што цяпер сядзіць Бабарыка? 20 гадоў працаваў у банку – быў чэсным, а перад выбарамі раптам стаў злачынцам? А колькі за апошні час маладых таленавітых людзей з’ехала за мяжу, бо не бачаць тут ніякай перспектывы. Гэта ж таксама страты для краіны.

**– Увесь народ з’ехаць упрочкі не можа. Ад’езд – гэта заўсёды трошкі капітуляцыя. Як вы лічыце, за час пасляжнівеньскіх падзей прыхільнікаў цеснай інтэграцыі з Расіяй у Беларусі пабольшала ці паменшала?**

– Думаю, што заўважна паменшала. Асабліва радуе нас, старэйшае пакаленне, тое, што моладзь за незалежнасць, што яна не прымае дыктатарскую сістэму, хоча бачыць Беларусь нармальнай еўрапейскай краінай. Слухайце, чаму мы толькі на ўсход арыентуемся? Так, мы павінны сябраваць з Расіяй, суседзяў не выбіраюць. Але мы адначасова павінны сябраваць і з заходнімі краінамі, захоўваючы незалежнасць, суверэнітэт. Каб не згубіць каранёвую ідэнтычнасць, трэба ўмацоўваць сваю нацыянальную культуру, адраджаць мову. Калі яшчэ сказана: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”. І вось сёння мы мусім зразумець: не будзе мовы – не будзе і нас, беларусаў! Бязмоўныя, мы бясследна растворымся ў моры “русского мира”.

**– Дзе ж шукаць выйсце? Што павінна рабіць беларуская інтэлігенцыя ў гэтай сітуацыі?**

– Шмат хто мяркуе, што пратэсты спыніліся, таму лепш ціхенька сядзець, галаву ў пясок хаваўшы… А якая будучыня тады чакае вашых дзяцей і ўнукаў? Уся надзея на моладзь, якая не прымае дыктатуру. Захочацца ёй жыць у нармальнай краіне – і дыктатура рухне. І мы ўсе будзем успамінаць наш ліхі час, як успамінаем кляты 1937 год. Пры такім антычалавечым і антыбеларускім рэжыме Беларусь існаваць доўга не можа. І не будзе – я ў гэтым пераканана.

**Міхась Скобла, “Народная Воля”**

# “МЫ ГУЛЯЕМ У ФУТБОЛ НА МІННЫМ ПОЛІ”

У Аляксандра Старыкевіча нетыповы журналісцкі лёс: ніколі не вучыўся на журфаку, у 20 гадоў працаваў ва ўплывовых расійскіх выданнях, 18 гадоў ачольвае “Салідарнасць”, ведае, чаго бракуе незалежным медыя і чаму неабходна крытыкаваць апазіцыю.

## У 12 гадоў стаў “антысаветчыкам”, у 16 затрымалі за распаўсюд “самвыдату”

Стоячы ў парку Янкі Купалы, Аляксандр Старыкевіч з лёгкай настальгіяй згадвае, што менавіта перад помнікам паэту больш за 30 гадоў таму па серадах збіралася “Талака” – першая нефармальная грамадска-палітычная моладзевая тусоўка.

“Тут мы размаўлялі, тут таемна прадавалася падпольная прэса, спачатку літоўскага Народнага фронту, потым з’явіўся беларускі самвыдат.

Я быў адным з першых затрыманых за гандаль падпольнай прэсай. Гэта быў 1989 год, мітынг Станіслава Шушкевіча, калі ён балатаваўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР. Я якраз скончаў 10 клас, гэта здарылася перад самымі іспытамі. Мітынг быў даволі шматлюдны, я сыходзіў вельмі задаволены, бо распаўсюдзіў шмат выданняў. Меўся ў той дзень яшчэ ісці на аўташоў на стадыён „Дынама“. Натуральна, за мітынгам сачылі, і каб я сышоў з усімі, можа, мяне і не затрымалі б. А я сыходзіў адзін. Трапіў у пастарунак, выручалі мяне франтаўцы і Сяргей Антончык (адзін з лідараў рабочага руху, пазней дэпутат Вярхоўнага Савету. – РС). Часы былі перабудовачныя, мяне хутка выпусцілі.

Грамадска-палітычная актыўнасць і вывела мяне на сцежку незалежнай журналістыкі”, – мяркуе Аляксандр.

## “Салідарнасць”: 2,5 года на паперы, 15 – у анлайне

У медыябрэнда “Салідарнасць” доўгая гісторыя. У 2003 годзе Старыкевіч ачоліў газету “Салідарнасць”, якая тады была органам Беларускага незалежнага прафсаюзу гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, будаўнікоў, энергетыкаў, аднак некаторы час не выходзіла. Зарэгістраваць новае выданне ў той час было нерэальна. Давялося адраджаць шматтыражку – з 4 старонак зрабіць 16.

“Мы пачалі з нуля. Я не магу сказаць, што прафсаюз моцна ўплываў на нашу дзейнасць, усё было карэктна. Газета праіснавала ў папяровым выглядзе 2,5 года. Наклад у яе тады быў каля 5,5 тысячы”, – расказвае галоўрэд.

Калі ўлады пачалі ціснуць на “БДГ” і летам 2003 года прыпынілі на 3 месяцы яе выпуск, галоўны рэдактар Пётар Марцаў звярнуўся да Аляксандра Старыкевіча, каб выпусціць “БДГ” пад маркай “Салідарнасці”. Выйшла 4 нумары аднаўленай “Салідарнасці” і “БДГ”.

“На пятым нумары друкарня адмовілася, на нас наслалі праверку, мы атрымалі буйны штраф. „Салідарнасць“ не выходзіла пару месяцаў, трэба было пераарыентавацца на друк газеты ў Смаленску. Лета – час для раскруткі неспрыяльны. Аднаўленне аднеслі на восень, нават удалося дамовіцца з іншай беларускай друкарняй. Шмат праблем і цяжкасцяў было.



Не магу не згадаць зверскае забойства выбітнай, таленавітай журналісткі Веранікі Чаркасавай у кастрычніку 2004 года. Гэта боль. І мы дагэтуль не ведаем праўды, яе забойства дагэтуль не раскрытае, дый улада не асаблівa і імкнулася расследаваць справу”, – згадвае трагічныя падзеі Аляксандр.

“Але пачаліся іншыя перашкоды: у 2005 годзе “Салідарнасць” выкінулі з падпіскі “Белпошты” і продажу ў шапіках “Белсаюздруку” – гэта было зроблена перад прэзідэнцкай кампаніяй 2006 года. Што рабіць? Выданне адносна новае, у нас не тыя магчымасці, як у той жа “БДГ”, каб змагацца. Сваёй службы распаўсюду не было. Нават Пётр Марцаў спыніў выпуск БДГ. Я ацаніў свае магчымасці. І прыняў рашэнне працягваць працаваць як анлайн-медыя. На той момант гэта было значна-значна танней”, – расказвае Аляксандр.

У 2006 годзе “Салідарнасць” была ўзнагароджаная прэстыжнай прэміяй імя Герда Буцэрыюса (заснавальнік – фонд нямецкай газеты “Цайт” сумесна з нарвежскім Фондам свабоды слова).

## “Асабіста я – прыхільнік глыбіні”. Чаму “Салідарнасць” не стала мультымедыя

У адрозненне ад іншых анлайн-рэсурсаў, якія сталі мультымедыйнымі, здымаюць відэа, прадукуюць падкасты, “Салідарнасць” застаецца інтэрнэт-газетай.

**svaboda.org**

**Працяг гутаркі чытайце на сайце zbsb.org**

**навіны**

# "ВЫЦІНАНКА. PALUNISA. ALMANAC" – ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ НУМАР АНЛАЙН-АЛЬМАНАХУ ПРА ВЫЦІНАНКУ!

У траўні выйшаў першы нумар беларускага альманаху пра выцінанку і папяровую выразку – "Выцінанка. Palunisa. Almanac"!

Гэта некамерцыйная ініцыятыва. "Выцінанка. Palunisa. Almanac" дзеля даступнасці, папулярнасці і сапраўднай народнасці задумаўся бясплатным і платным ніколі не будзе. Каб падпісацца, трэба проста зарэгістравацца ў гугл-форме.

Аўтарка ідэі стварэння альманаху – Вольга Palunisa, народны майстар, рэспубліканскі стыпендыят у галіне культуры і мастацтва, загадчыца секцыі выцінанкі Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, сябра міжнароднага таварыства "Бумажные традиции" (Расія) і Guild of American Papercutters (ЗША). Задачу новага выдання яна бачыць у






пашырэнні культуры папяровага выразання ў Беларусі, выхаванні густу, падтрымцы сувязяў паміж майстрамі, мастакамі, спажыўцамі гэтага віду мастацтва. Вольга Palunisa спадзяецца, што з дапамогай альманаху веды пра выцінанку дойдуць да кіраўнікоў і працаўнікоў школьных і пазашкольных устаноў, дзіцячых садкоў, мастацкіх студый, проста да асоб, цікаўных да гэтага віду мастацтва.

"Аднойчы я зразумела, што выцінанка ёсць тое, чым я дакладна буду займацца ўсё жыццё! – дзеліцца ўспамінамі спадарыня Вольга. – Гэта здарылася ў 2004-м, калі я атрымала магчымасць праз інтэрнэт даведвацца пра ўсё, што робіцца ў свеце папяровага выразання. Тады ж я ўсвядоміла ўнікальнасць беларускай выцінанкі!"

Выданне разлічанае на публікацыі мастацтвазнаўцаў, этнографаў, прафесіяналаў выцінанкі, але яго аўтарам можа стаць кожны, хто дашле свой матэрыял і апавядзе пра свой досвед стасункаў з выцінанкай, падзеліцца ўспамінамі і вынаходніцтвамі. Альманах мае на мэце аператыўна дапаўняць і выпраўляць тыя матэрыялы пра беларускую выцінанку, якія ўтрымліваюць ранейшыя выданні на гэтую тэму. Асобная ўвага адведзеная пытанням абароны аўтарскіх правоў у гэтай галіне мастацтва.

"Альманах – гэта мой досвед, мае веды, мае стасункі, мае падарожжы, мае сустрэчы і мае ўражанні, якімі я хачу падзяліцца, – кажа Вольга Palunisa. – І да іх далучаецца шырокае кола самых розных творчых і навуковы асоб, мастакоў, этнографаў, музейных працаўнікоў, мастацтвазнаўцаў, калекцыянераў самых розных узроўняў. Гэтае кола ўтварылася больш чым за 30 год майго захаплення выцінанкай". Калі ласка, чытайце і запрашайце да падпіскі!

**Паводле прэс-рэлізу**

## Раіса Станкевіч

Нарадзілася 23 лістапада 1941 (Наваградак, Беларусь) – памерла 15 траўня 2021 (Нью-Ёрк, ЗША).

Пасля цяжкай і працяглай хваробы 15 траўня 2021 году ў Нью-Ёрку адышла ў лепшы свет Раіса Станкевіч, дачка Станіслава і Зінаіды Станкевічаў, удзельніца беларускага грамадскага жыцця з самога дзяцінства.

Раіса нарадзілася ў Наваградку 23 лістапада 1941 года, з 1944 жыла з бацькамі ў Мюнхене (Заходняя Нямеччына), вучылася ў мясцовай школе, была прысутная на імпрэзах, куды хадзілі яе бацькі – актыўныя дзеячы беларускай дыяспары. У 1958 годзе сям'я пераехала ў Злучаныя Штаты Амерыкі, пасялілася ў Нью-Ёрку. Тут Раіса атрымала адукацыю ў Каледжы святой Тэрэзы (Уінона, Мінесота), Універсітэт святога Джона (Нью-Ёрк), а пазней – Хантэрскі каледж Гарадскога ўніверсітэта Нью-Ёрка. Яна двойчы стала магістрам – біялагічнай хіміі і гісторыі.

Біяхімія была яе прафесіяй, складнікам яе "амерыканскага жыцця" (Раіса Станкевіч працавала ў даследчай лабараторыі Цэнтра вывучэння раку – Мемарыяльным анкалагічным цэнтры імя Слоўна – Кетэрынга). А вось магістарская праца па гісторыі Беларусі пачатку XX стагоддзя падмацоўвала яе ў грамадскіх высілках – Раіса была актывісткаю беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амерыкі. У розныя гады яна займала адказныя пасады ў такіх грамадскіх арганізацыях, як Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА), Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі (АБАМ), Славянская харытатыўная рада, Фундацыя імя Івана Любачкі. Была раднай БНР, сябрам рэдкалегіі газеты "Беларус", старшынёй рэдкалегіі часопіса "Беларуская моладзь". Належала да Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба, арганізавала дзявочы танцавальны гурток. Раіса Станкевіч па смерці бацькоў цесна сябравала з Антонам Шукелайцем і сям'ёю Юлі Андрусышын, шмат часу аддавала гасцям з Бацькаўшчыны, якія пачалі актыўна прыязджаць у Злучаныя Штаты пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. І сама яна шмат падарожнічала па розных краінах; наведала Менск і Вільню.

Цяжкая хвароба на доўгія гады прыкавала Раісу Станкевіч да ложка, апошнія гадоў дзесяць апекаваліся ёю сябры рады дырэктараў Беларускай фундацыі Крачэўскага, найперш Валеры Дворнік



– гаспадарчы сакратар. Архівы сям'і Станкевічаў былі перададзеныя на захаванне ў фундацыю, дзе яны даступныя для даследчыкаў. Беларуская фундацыя Крачэўскага ўзяла на сябе таксама абавязак даглядаць магілы сям'і Станкевічаў.

18 траўня 2021 году Раіса Станкевіч пахаваная побач з бацькамі ў Іст-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі, ЗША) на могілках царквы Жыровіцкай іконы Божай Маці (БАПЦ). Вечная памяць!

**Сябры**

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2021 года

**1 чэрвеня**

- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Якуб Міско, пісьменнік. Памёр у 1981-м.
- 105 гадоў таму, у 1916-м, нарадзіўся Мікола Гваздоў, паэт. Загінуў у 1937-м.

**2 чэрвеня**

- 215 гадоў таму, у 1806-м, нарадзіўся Аляксандр Валадковіч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830–1831 гг. Памёр у 1862-м.

**4 чэрвеня**

- 35 гадоў таму, у 1986-м, памерла Канстанцыя Буйло (у замужжы Калечыц), паэтка.

**7 чэрвеня**

- 45 гадоў таму, у 1976-м, памёр Міхась Машара, пісьменнік.

**8 чэрвеня**

- 65 гадоў таму, у 1956-м, памёр Юзюк Фарботка, паэт, заолаг.

**9 чэрвеня**

- 140 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Іван Луцкевіч, этнограф. Памёр у 1919-м.

**11 чэрвеня**

- 95 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Дзмітрый Сямёнаў, літаратар, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1982-м.
- 55 гадоў таму, у 1966-м, памёр Сцяпан Баркоўскі, этнограф.

**12 чэрвеня**

- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Мікола Панькоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1995-м.

**13 чэрвеня**

- 295 гадоў таму, у 1726-м, нарадзіўся Антон Барташэвіч, філосаф. Памёр у 1768-м.

**14 чэрвеня**

- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Пётр Татарыновіч, святар, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане. Памёр у 1978-м.

**15 чэрвеня**

- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Павел Каравайчык, пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.
- 20 гадоў таму, у 2001-м, памёр Валерый Навіцкі (Валянцін Новік), дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

**18 чэрвеня**

- 215 гадоў таму, у 1806-м, нарадзіўся Міхаіл Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызваленчага руху. Павешаны ў 1833-м.
- 110 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Аляксандр Шыдлоўскі, кампазітар. Памёр у 2002-м.

**19 чэрвеня**

- 80 гадоў таму, у 1941-м, нарадзіўся Іван Ласкоў, пісьменнік. Памёр у 1994-м.

**26 чэрвеня**

- 80 гадоў таму, у 1941-м, ва ўрочышчы Цагельня супрацоўнікамі НКУС былі расстраляны 5 тысяч палітвязняў, прыгнаных з Мінскай і іншых турмаў.

**27 чэрвеня**

- 80 гадоў таму, у 1941-м, у Віцебску НКУС распачаў масавыя расстрэлы палітвязняў (усяго за тры дні было забіта каля 2 тысяч чалавек).

**29 чэрвеня**

- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Уладзіслаў Казлоўскі, паэт. Забіты ў 1943-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (228), май 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27